

№ 22 (135)

Чэрвень 2006 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года


**У нумары:**



## З цікавасцю да мясцовага матэрыялу

Традыцыяй стала праведзенне ў Дзятлаве рэгіянальнай канферэнцыі «Свет маіх адкрыццяў». Вось і сёлета для ўдзелу ў шырокім дыялогу па самых розных пытаннях сабраліся ў гімназіі № 1 г. Дзятлава навучэнцы з суседніх раёнаў. Канферэнцыя працавала па наступных накірунках: беларуская і руская філалогія, біялогія, хімія і геаграфія, матэматыка і фізіка, англійская мова, гісторыя, сусветная мастацкая культура і культуралогія.

Якія ж тэмы даследаванняў зацікавілі гімназістаў Гарадзеншчыны? Дзевяцікласніца Юлія Лаўроўская выступіла з дакладам «Дэмаграфічная сітуацыя краю». Дзятлаўскія гімназісты былі вельмі ўважлівыя да творчасці Вячаслава Адамчыка. Ён, як вядома, скончыў школу ў дзятлаўскай Наваельні. Наталля Ганчарук разглядала тэму «Хрысціянскія матывы ў рамане В. Адамчыка «Чужая бацькаўшчына», Насця Кончык выступіла з дакладам «Праблема шлюбу і сям'і ў рамане В. Адамчыка «Чужая бацькаўшчына». Алёна Шымук была ўважлівай да тэмы «Чалавек і прырода ў апавяданнях В. Адамчыка». Алёну Малько зацікавіў «Псіхалагізм рамана В. Адамчыка «Чужая бацькаўшчына».

Анастасія Буйко пад кіраўніцтвам выкладчыка А. Ламака выканала даследаванне «Паэтыка песеннага фальклору». Несумненна, у Дзятлаве выхоўваюць будучых літаратуразнаўцаў і мовазнаўцаў. А з Навагрудка на канферэнцыю прыехалі гімназісты, якія надзвычай нераўнадушныя да гісторыі. Вось тэмы іх даследаванняў. У Ірыны Борыс – «Маё генеалагічнае дрэва», у Кацярыны Скобля – «А. Міцкевіч і А. Пушкін». У Гражыны Сіткоўскай – «Польская культура на Навагрудчыне», у Вікторыі Мягковай – «Яўрэйская культура на Навагрудчыне (20–30-я гг. XX ст.)».

Прыемна, што арганізатары і ўдзельнікі канферэнцыі не забываюцца, дзе, на якой зямлі жывём.

*Кастусь ЛАДУЦЬКА*




*У гонар партызан 266-га атрада імя М.В. Фрунзе, які быў створаны 25 мая 1943 года (баявое злучэнне кольказу да 500 чалавек, камандзір У.Б. Паўлаў), непадалёк ад пасёлка Аляксандраўка Жлобінскага раёна ля трасы Гомель–Мінск быў устаноўлены помнік. Гэтае месца з'яўляецца адным з самых вядомых на Жлобіншчыне. Тут збіраюцца былыя партызаны, а моладзь, па даўняй традыцыі, ускладае кветкі.*

*Мікалай ШУКАНАЎ, супрацоўнік жлобінскай райгазеты «Новы дзень», краязнавец*
*Фота Івана ЧЭКАНА*




*Адсвяткаваў, адтанцаваў фестываль «Берагіня»! Запрашаем чытачоў прайсціся фестывальнымі вулкамі.*


*Рэпартаж глядзіце на староныцы 5*


## «Добры геній» Слуцкага краю

***Зайсёды цікава дакрануцца да некаторых старонак гісторыі. А пэўная частка нашай гісторыі знаходзіцца на старых слуцкіх могілках.***

Тут ужо 98 гадоў стаіць помнік М.Д. Пратапопаву (1830–1908). Яго магілу даглядала мая бабуля; калі яна памерла ў 1941 годзе – мая мама, потым і я. Помнік нагадвае царкоўны аналой, на якім ляжыць раскрытае Евангелле. На старонках выгравіраваны словы: «Подвигам добрым ты подвизался».

У свой час дзядуля і бабуля, а потым і маці часта расказвалі мне пра яго.

Мой дзед І.І. Кахановіч прыкладна паўстагоддзя працаваў у слуцкай гімназіі вартаўніком і гардэробшчыкам. У яго сям'і было 9 дзяцей. Вядома, вучыць усіх дзяцей не было магчымасці. Вучыліся тыя, хто меў большыя здольнасці. М.Д. Пратапопаў заўважыў здольнасці старэйшага брата маёй мамы Іосіфа і дапамагаў яму вучыцца. Пасля заканчэння універсітэта мой дзядзька працаваў выкладчыкам, а потым дырэктарам школы ў Пензе. Сваю найвышэйшую мэту Мікалай Данілавіч бачыў у тым, каб дапамагчы здольным гімназістам з бедных сем'яў. Многія, дзякуючы яго матэрыяльнай падтрымцы, вучыліся ў гімназіі, а потым і ва універсітэтах Расіі. Для гэтай справы ён аддаваў амаль увесь свой заробак, пры гэтым часта царпеў нястачу.

Жыў М.Д. Пратапопаў адзін у старэнькім доміку непадалёк ад гімназіі па вуліцы Чырвонай (цяпер вул. Пліева). Скончыў у 1850 г. слуцкую гімназію, дзе працаваў з 1864 па 1888 год настаўнікам матэматыкі, а потым інспектарам. Тыя, хто яго ведаў, адзначалі высокую адукаванасць гэтага чалавека, прагрэсіўнасць поглядаў, шчырасць і чуласць, любоў да дзяцей. Летам па суботах, калі ў горадзе было прынята частаваць жабракоў, дарыць ім розныя рэчы, Мікалай Данілавіч выносіў у садок самавар, купляў абаранкі, цукеркі і частаваў усіх, хто да яго прыходзіў. За дабрыню называлі настаўніка і гімназісты, і жабракі «добрым геніем».

У 1908 годзе да нашай сям'і прыйшла сумная вестка аб смерці «добрага генія». Калі бабуля з мамай прыйшлі на Чырвоную вуліцу, то ўбачылі, што ўся яна напоўнена жыхарамі горада: гімназістамі, настаўнікамі, жабракамі. Гэтыя людзі, якім Мікалай Данілавіч аддаваў цяпло сваёй душы, быў як родны бацька, і пахавалі яго. Родных у Пратапопава ў Слуцку не было. Крыху пазней былыя вучні прывезлі і ўстанавілі на яго магіле помнік і агароджу. На помніку выгравіравана «Настаўніку – Чалавеку». Чалавеку – з вялікай літары.

**P.S.** *На гэтых жа старых слуцкіх могілках можна знайсці і помнікі іншым выкладчыкам слуцкай гімназіі. Захаваўся, напрыклад, помнік у выглядзе велічнай стэлы з крыжом наверсе. На пастаменце я прачытала: «Павел Петрович Сандер. 17.VI.–1854 – 23–I–1882. Ученики любимому учителю». П.П. Сандер працаваў у слуцкай гімназіі разам з М.Д. Пратапопавым. Пражыў усяго 27 гадоў, але заслужыў вялікую павагу, памяць і пашану сваіх вучняў, якія, як і ў выпадку з Пратапопавым, паставілі яму помнік.*

*На маю думку, навучэнцы цяперашняй слуцкай гімназіі, дзе існуе музей гісторыі гэтай навучальнай установы, маглі б узяць шэфства па даглядзе магіл вядомых настаўнікаў гімназіі.*

*Ларыса ЛУК'ЯНЦАВА, краязнавец, г. Слуцк*





**Нашы віншаванні**

# Кавалер найвышэйшай узнагароды Латвіі

***За подпісам Прэзідэнта Латвійскай Рэспублікі нядаўна з'явіўся загад аб узнагараванні Вячкі ЦЕЛЕША найвышэйшай узнагародай гэтай краіны – Ордэнам Трох Зорак. Ён чацвёрты беларус – кавалер гэтага ордэна (нагадаем, першыя былі Рыгор Барадулін, Васіль Сёмуха і Сяргей Панізьнік). Мы далучаемся да віншаванняў і зычым нашаму земляку, грамадзяніну Латвійскай Рэспублікі, моцнага здароўя, поспехаў на мастакоўскай і педагагічнай ніве.***

Хоць наша газета друкавала з ім інтэрв'ю (гл. № 46 за снежань 2004 года), коратка спынімся на біяграфіі В. Целеша – беларускага мастака, педагога, філакартыста і краязнаўцы. Нарадзіўся ў г.п. Краснасельскім Ваўкавыскага раёна, вядомым старажытнымі шахтамі-капальнямі, у 1975 годзе скончыў Латвійскую Акадэмію мастацтваў і з таго часу жыве ў Рызе. Працуе ў розных жанрах станковага жывапісу і графікі, а таксама ў экслібрысе. Жывапісныя творы прысвечаны не толькі прыгажосці латышскай зямлі, шмат працаў ён прысвяціў Беларусі, яе гісторыі, знакамітым людзям нашай краіны. Варта адзначыць карціны «Прысвячэнне зубру», «Першаму беларускаму драматургу прысвячаецца (В. Дунін-Марцінкевіч)», «Мой мацярык Віцебшчына (С. Панізьнік)», «У лекарскіх навуках доктар Ф. Скарына», «Заміж персідскага ўзору... (М. Багдановіч у Вільні)», «Дзвіна-Даўгава – маці наша (Я. Купала і Я. Райніс)», «Скарына ў Рызе»...

В. Целеш – старшыня суполкі мастакоў-беларусаў Балтыі «Маю гонар», намеснік старшыні таварыства беларускай культуры «Сьвітанак», дырэктар прыватнай беларускай школы ў Рызе. Многім ягонае імя знаёмае па кнігах «Мінск на старых паштоўках» і «Гарады Беларусі на старых паштоўках» (яна вытрымала тры выданні), якія ўкладаў Целеш. Ён жа аўтар кнігі «Рыга на старых паштоўках».




# Сучасныя беларускія краязнаўцы

*Матэрыялы да слоўніка*

**Тоўсцік** Аркадзь Апанасавіч (н. 15.11.1925, в. Чыкілі Глускага р-на Магілёўскай вобл.), журналіст, заслужаны работнік культуры Беларусі (1979). Скончыў філалагічны факультэт Мінскага педінстытута імя М. Горкага (1957). Працаваў намеснікам рэдактара газеты «Чырвоная змена» (1953–1960), галоўным рэдактарам газеты «Звязда» (1973–1986), галоўным спецыялістам Беларускага фонду культуры (1987–2000). Да краязнаўства далучыўся падчас працы ў БФК. Займаўся вывучэннем праблем вяртання ў краіну беларускіх нацыянальных каштоўнасцей, якія былі вывезены за мяжу. Удзельнічаў у стварэнні выставаў БФК: «Каштоўнасці, вернутыя народу» (1988), «Панарама», «Дары мастакоў фонду». Член рэдкалегіі і адзін з укладальнікаў зборнікаў «Вяртанне», «Славутыя імёны Бацькаўшчыны». Аўтар артыкулаў у зборніках «Вяртанне», газетах «Звязда», «Рэспубліка», «Беларускім археалагічным штогодніку».

Тв.: Вяртанне да вытокаў сваіх. Мн., 2000; Лістапад. Мн., 2004 і інш.


*А. Тоўсцік*


*А. Трусаў*

**Трусаў** Алег Анатольевіч (н. 07.08. 1954, г. Мсціслаў Магілёўскай вобл.), кандыдат гістарычных навук (1981), дацэнт БДУ, які скончыў у 1976 г. Краязнаўствам займаецца са студэнцкіх часоў. Настаўнікамі лічыць Л. Аляксеева і М. Ткачова. Вывучае гісторыю, архітэктуру, археалогію Мсціслаўшчыны. Старшыня Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.

Тв.: Старонкі мураванай кнігі. Мн., 1990; Старажытны Мсціслаў. Мн., 1992 (разам з М. Ткачовым) і інш.

**Турыянскі** Міхал Шыманавіч (н. 05.01.1958, в. Крывошын Ляхавіцкага р-на Брэсцкай вобл.), будаўнік. Скончыў Завочны універсітэт мастацтваў (Масква, 1988). Актыўную краязнаўчую дзейнасць пачаў пасля знаёмства з працамі А. Мальдзіса. Настаўнікамі таксама лічыць Л. Чаранкевіча, В. Сокала. Займаецца зборам мемуарыстыкі, вядзе пошукі здабыткаў сацыяльнай дзейнасці шляхецкага і мяшчанскага саслоўяў, вывучае помнікі гісторыі і культуры. Удзельнічаў у стварэнні кнігі «Памяць. Ляхавіцкі раён». Кіраўнік Гістарычнага таварыства «Тадэвуш Рэйтан» (1997). Аўтар артыкулаў у навуковым і перыядычным друку.

**Тыванюк** Наталля Анатольеўна (н. 04.03.1973), настаўніца Дзітвянскай СШ Лідскага раёна. Скончыла Беларускі дзяржаўны педуніверсітэт (1996). Краязнаўствам займаецца з 1996 г. Настаўнікам лічыць В. Слюкіна. Вывучае этнаграфію і фальклор Лідчыны. Стварыла школьны музей.

# Край, ад калыскі дарагі

Асаблівыя пачуцці захоўваюць людзі да тых мясцін, дзе нарадзіліся і выраслі, адкуль пайшлі ў жыццёвую дарогу. Важным з'яўляецца падтрымка гэтых пачуццяў у падрастаючага пакалення, бо краязнаўства і краялюбства непарыўна звязаны з развіццём патрыятычнага выхавання і станаўленнем грамадзянскай самасвядомасці будучых жыхароў нашай краіны. Бібліятэкі ў гэтай высакароднай справе займаюць адну з першых пазіцый, бо менавіта яны заўсёды былі і застаюцца інтэлектуальна-актыўным асяродкам культуры і цэнтрам захавання нацыянальнай спадчыны.

Зембінская сельская бібліятэка, што на Барысаўшчыне, якраз і з'яўляецца тым асяродкам, дзе захоўваецца інтэлектуальны скарб многіх пакаленняў зембінцаў, і сапраўдным цэнтрам вывучэння гісторыі роднага краю. Краязнаўча-пошукавую дзейнасць загадчыца бібліятэкі Кацярына Юльянаўна Сідаровіч ажыццяўляе разам з жыхарамі вёскі Зембін, са сваімі чытачамі. Мясцовыя старажылы з ахвотай успамінаюць аб далёкім мінулым яўрэйскага мястэчка, замежныні родзічамі былых зембінцаў падаравана бібліятэцы шмат фотаздымкаў і архіўных дакументаў, кніг. У выніку бібліятэка мае змястоўную, з густам афармленую кніжную выставу «Старонка мая, непаўторны куток», матэрыялы якой дапамагаюць маладому пакаленню пазнаваць сваю малую радзіму. Краязнаўчая дзейнасць Зембінскай сельскай бібліятэкі шматгранная: ваеннае мінулае, раскрыццё народнай творчасці таленавітых землякоў, літаратурнае краязнаўства, развіццё паэтычных здольнасцей мясцовых жыхароў. Дарэчы, сама Кацярына Юльянаўна таксама піша вершы. У 2004 годзе выдадзены зборнік яе вершаў «Мне хочется пожить на облаках».

Ажыццяўляючы краязнаўчую работу, бібліятэка імкнецца ўплываць на развіццё цікаўнасці ў кожнага маладога чалавека да лёсу сваіх землякоў, павагі да гісторыі краю, а таксама жывога інтарэсу да сучаснага жыцця вёскі. Менавіта гэтай тэме была прысвечана прэзентацыя рэфератаў, падрыхтаваных старшакласнікамі Зембінскай сярэдняй школы, якая адбылася ў бібліятэцы. Правядзенню мерапрыемства папярэднічала вялікая, карпатлівая праца групы вучняў пад кіраўніцтвам настаўніка гісторыі Аляксандра Сцяпанавіча Лапыцькі. З вялікай цікавасцю распавядалі вучні пра гістарычнае мінулае вёскі, пра землякоў, якія праславіліся ў свеце, з павагай і цеплынёй гаварылі пра сваіх бацькоў і аднавяскоўцаў, што праслаўляюць вёску сёння. У словах дзяцей адчуваўся гонар за тое, што ім пашчасціла нарадзіцца і жыць тут, на Зембінскай зямлі, якая дала свету імёны Ізі Харыка, Надзеі Хадасевіч-Лежэ, Язэпа Шпэта.

Сёлета адзначаецца 480-годдзе з дня першага пісьмовага ўпамінання аб вёсцы Зембін. Копіі ўсіх вучнёўскіх рэфератаў папоўнілі краязнаўчы фонд сельскай бібліятэкі. Яны маюць вялікую каштоўнасць для будучых пакаленняў і будуць выкарыстаны для святочных імпрэз да вялікай даты.

Даследчая праца зембінскіх школьнікаў не засталася без увагі. Адміністрацыя цэнтральнай раённай бібліятэкі ўзнагародзіла 16 хлопчыкаў і дзяўчынак Ганаровымі граматамі за папаўненне краязнаўчай скарбонкі бібліятэкі. Скончыць невялікі завочны экскурс у Зембінскую сельскую бібліятэку хочацца радкамі юнай паэткі Надзеі Яраш:

*Ёсць мястэчка на нашай планеце,*
*Дзе жыве працавіты народ.*
*Любы Зембін, мілейшы ў свеце,*
*Вёска, дзе нарадзіўся мой род.*
*Тут жыцця атрымалі ўрокі:*
*Шпэт Язэп, Ізі Харык, Лежэ.*
*К іх вядомасці першыя крокі*
*Ёсць на Зембінскім рубяжы.*
*За вякі шмат пабачыла вёска,*
*Нацярпелася ворагаў злых.*
*Банапарту прыйшлося нялёгка,*
*Не змог знішчыць ён продкаў маіх.*
*Гаспадарыў тут немец паганы,*
*Быў фашыст, горш за дзікіх звяроў.*
*927 – расстраляны...*
*Мірных вёскі маёй жыхароў.*
*З папялішча адноўлена вёска,*
*Расцвітае радзімы мой кут.*
*Ліхалеццяі мінула палоска,*
*Мір і згода жывуць зараз тут.*

***Людміла ЗАХАРЭВІЧ,***
***загадчыца аддзела бібліятэчнага маркетынгу Барысаўскай РЦБС***

# *Кароткі слоўнік* краязнаўча-прававой тэрміналогіі *беларускай старажытнасці*



**(Пачатак у № 3 за 2005 г.)**

**ПРЫВІЛЕЙ** 1492 г. – заканадаўчы акт, выдадзены князем ВКЛ Аляксандрам. Дапаўняючы прывілей 1447 г., замацоўваў прынцыпы міжнароднай палітыкі дзяржавы, абмяжоўваў уладу вялікага князя панамі-радай, без згоды якіх той не мог прымаць прынцыповых рашэнняў; вызначаў нормы адміністрацыйнага грамадзянскага і крымінальнага права. Фактычна быў формай Канстытуцыі, пазней некаторыя яго палажэнні ўвайшлі ў Статуты ВКЛ.

**ПРЫВІЛЕЙ** 1588 г. – юрыдычны акт за подпісам польскага караля і вялікага князя ВКЛ Жыгімонта III Вазы на каранацыйным сейме ў Кракаве. Згодна з гэтым прывілеем памнажаліся шляхецкія правы і прывілеі, у тым ліку і замацоўвалася ўвядзенне ў жыццё новага Статута ВКЛ. Кароль абавязаўся прытрымлівацца палажэнняў Статута (гэта было адной з форм пацвярджэння самастойнасці ВКЛ), а ўсе насельнікі ВКЛ павінны былі падпарадкоўвацца ім. Прывілей 1588 г. засведчылі падканцлер ВКЛ Л. Сапега і пісар Г. Война. Напісаны і выдадзены на тагачаснай беларускай мове.

**ПРЫГОДА** – нечаканае здарэнне, у выпадку якога здаралася якая-небудзь шкода, быў паранены ці забіты чалавек.

**ПРЫГОННАЕ ПРАВА** – канцэпцыя юрыдычных норм, па якіх замацоўвалася пазямельная, судовая, асабістая залежнасць сялян ад землеўладальнікаў і дзяржавы; найбольш цяжкая форма бяспраўя ў Сярэднявеччы. Прыгонныя надзяляліся сродкамі і прыладамі, якія потым адпрацоўвалі на паншчыне, плацілі аброк натурай ці грашыма, не мелі палітычных правоў.

У ВКЛ прыгоннае права пачало набываць свае абрысы ў XV–XVI стст. найперш у сувязі са станаўленнем фальваркава-паншчыннай сістэмы гаспадаркі. У гэты час правы і прывілеі землеўласнікаў пашыраліся, а сялян – звужваліся. Паводле Прывілея 1447 г. вялікага князя ВКЛ Казіміра забараняўся пераход селяніна ад гаспадара да іншага феадала. З увядзеннем «Уставы на валокі» 1557 г. стан землеўласнікаў яшчэ палепшыўся, а сялян пагоршыўся.

**ПРЫМАС** (ад лац. галоўная асоба) – тытул епіскапаў (біскупаў) у каталіцкай і англіканскай цэрквах, якім падпарадкоўваліся ўсе іншыя святары. Па даўнім звычаі ў Польшчы прымасам быў гнёзненскі біскуп, які адначасова кіраваў усімі каталікамі і ў ВКЛ. Быў адным з важных саноўнікаў, меў шырокія паўнамоцтвы, нават мог быць на чале дзяржавы ў час бескаралеўя. Склікаў элекцыйныя сеймы і старшынстваваў на іх, праводзіў каранацыю, быў старшынёю ў сенаце і мог склікаць прыватную нараду сенатараў з выпадку парушэння каралём законаў дзяржавы. Меў свой двор, службы, уласныя землі, вёскі і гарады. Паступова вялікі ўплыў яго зменшыўся і ў XVIII ст. страціўся.



*Уборы жыхароў ВКЛ (з кнігі Чэзарэ Вечэліё «Degli abili antichi e moderni...», Рым, 1590 год)*

# Роля жанчыны ў традыцыйнай мядоцкай сям'і

***Спрадвеку ў жанчыны нялёгкае жыццё. На ёй ляжыць галоўная адказнасць за парадак і дастатак у доме, за здароўе дзяцей, за цеплыню і паважлівасць адносін паміж сямейнікамі. А вясковая жанчына, акрамя ўсяго, клапоціцца яшчэ пра хатнюю гаспадарку і агарод...***

У даўнія часы жанчынам было нашмат цяжэй, чым зараз, бо яны сваімі рукамі павінны былі «сто работ рабіць»: мыць, варыць, садзіць, палоць, капаць, жаць, плесці, прасці, віць, ткаць... і гэтак бясконца. Адзін толькі выраб адзення чаго каштаваў! Пра гэта цудоўна расказана ў песні «Ох і сеяла Ульяніца лянок» (сеяла, палола, рвала, у снапочкі ставіла, мяла, прала, ткала, сарочкі шыла). І тут названы яшчэ не ўсе працэсы апрацоўкі лёну! Лён жа яшчэ сушылі, трапалі, дзялілі на сарты – кужаль, зрэб'е, патрэп'е; перад тым, як ткаць, ніткі вілі, снавалі, маталі, а гатовае палатно бялілі і толькі потым шылі з яго адзенне і бялізну. Варыянт вядомай народнай песні запісаны намі ў 2001 г. у в. Селішча ад Аўгінні Іванаўны Грук (1914 г.н.). Прыпеў у гэтым варыянце гучыць так: *«Ох, сэрца, лянок / Мая радасць ты, лянок, / А ўсё бялюсенькі кужалёк»*.

А Вольга Аляксандраўна Конан (1932–2002) з в. Завалы прапявала так: *«Ох, сэрца, лянок, / Жываты мае, лянок / Ўсё бялюсенькі кужалёк»*.

Калі распытваеш у сталых жанчын пра іх жыццё, то здзіўляешся, як яны паспявалі ўсё рабіць. Цікава, што амаль усе кажуць, што тады, у даўнія часы, уся работа «рабілася па плану»: у календары было ўсё распісана – вясной садзілі, летам расцілі, восенню збіралі ўраджай. А зімой пралі, ткалі, шылі, вышывалі. А для адпачынку былі святыя дні – нядзелі і прастольныя святы. Мая добрая суседка і старэйшая сяброўка, бабуля Марыя Казіміраўна Паўлавец, паспела мне расказаць і пра сваё нялёгкае жыццё, і пра цяжкую жаночую долю ў даўнія часы, калі ўсё рабілася ўручную і на жанчыне ляжалі ўсе хатнія клопаты. Таму дзяўчынку да выканання жаночых абавязкаў рыхтавалі з дзяцінства. Вось як расказвала Марыя Казіміраўна:

*«Калі дзяўчыне станавілася гадоў 6–7, то яна ўжо мыла падлогу, прыбірала ў хаце. То калі ў маці была дачка, то ўжо сорамна было ёй самой займацца ўборкай. Раніцай, калі ўсе садзіліся снедаць, бацька размяркоўваў работы на дзень. Работа была ў кожную пору года свая. Летам дзевачкам, акрамя ўборкі, загадвалі глядзець малых дзяцей, палоць і палівадь грады, сустракаць з пашы карову, рваць свінням траву. Старэйшыя дзяўчаткі ўжо даілі карову, сушылі сена, хадзілі ў ягады, гатавалі ежу. А як толькі пачыналася пара рукадзелля (у Піліпаўскі і Вялікі пасты), тады маці садзіла дачок з сабою разам і вучыла іх прасці, ткаць і вышываць».*

Выходзячы замуж, «дзеўка далжна была ўсё ўмець робіць». Маладыя сем'і жылі разам з бацькамі, і на нявестак ускладваліся вялікія абавязкі па гаспадарцы. «Пакуль прывыкне к новай сям'і – усім угадзіць стараецца. Як умее і не ляніцца рубіць – тады не так крыва глядзяць. А як няўмека і гультайка – піхаюць куды каму трэба, да яшчэ і абгаворваюць на сяле», – расказвае Праскоўя Фёдараўна Касцюковіч.

А Марыя Казіміраўна так успамінала пра жыццё замужняй жанчыны:

*«Раней былі сем'і неразлучныя (дзе жылі разам усе пакаленні роду), пакуль не пачаліся саўгасы. Мала было сямей багатых, дзе па 3–5 чалавек. А так былі сем'і па 10–12 і больш чалавек. У майго бацькі раней была вялікая сям'я. А потым у іх сям'і сталі разлучацца, сталі строіцца дамы. Стала жыццё лепшае, стала станавіцца больш хат. Не так, як раней, калі стаяла на краю вёскі нейкіх 5 хат. А іх стала ў дзесяць разоў больш. Моладзь ўжо стала адпраўляцца на заводы, на Беразіно, на «макаронку» і на іншыя фабрыкі.*

*Жанчыны даглядалі скаціну: парасят, кароў, цялят і іншую жывёліну.*

*Калі ўтварыліся калгасы, то і жанчыны хадзілі на працу. Увесь дзень была на рабоце, а калі прыходзіла дамоў, гатавала ежу, даглядала гаспадарку і займалася іншымі справамі: шыла, ткала, прала, выхоўвала дзяцей».*

Асаблівая роля адводзілася ў сям'і старэйшай жанчыне – бабулі. Калі ў яе была сіла, яна рабіла па дому, што магла, а самае галоўнае, яна прыглядвала за дзецьмі. Можна сказаць, што бабуля была хатняй выхавацелькай, і нават больш выхоўвала дзяцей, чым бацькі, бо яны ўвесь час былі на рабоце. Ад бабуль дзеці даведваліся шмат цікавага. Вучыліся казкам, песням, загадкам, нават танцам.

Мой тата Байко Генадзь Міхайлавіч, 1960 г.н., успомніў, як у дзяцінстве яго бабуля Агаф'я Мінаўна Касцюковіч (1879–1973) расказвала яму, чаму вёску называюць Мётча. Яна казала, што раней тут жыў памешчык і трымаў сядзібу з вялікім садам, дзе было многа калод пчол (даўней калодай называлі вулей). А вёска наша знаходзіцца «на ростаньках» (на перакрыжаванні дарог). Затрымліваліся ў памешчыка на ноч падарожныя, і гаспадыня частавала іх мёдам і чаем. Таму, успамінаючы смачны пачастунак, людзі казалі «мёд – чай», і паступова гэтыя словы сталі назвай вёскі. А памешчыка саслалі ў Сібір за тое, што быў багаты, хаця людзі доўга пасля ўспаміналі яго добрым словам.



А Марыя Казіміраўна з цёплынёй ўспамінала сваю бабулю, Ганну Цімафееўну, якая пражыла 76 гадоў і да глыбокай старасці рабіла на полі: сеяла і жала жыта, ячмень і авёс, сушыла і малола зерне, пякла хлеб.

Але найбольш мяне ўразілі аповеды пра жаночую працу, якія я пачула ад Аўгінні Іванаўны Грук (1914 г.н.) з в. Селішча. Пра тое, як мужна гэтая жанчына пражыла сваё жыццё, як сорак гадоў даглядала мужа-інваліда, параненага на вайне, і гадавала пяцёра дзяцей, а яшчэ была ў калгасе лепшай работніцай. А самае неверагоднае, што пры такой цяжкай долі яна стала вядомай у акрузе спявачкай, танцоркай і апавядальніцай. Цяжка нават уявіць, як можна было цэлы дзень гнуцца з сярпом, а вяртаючыся дадому, – спяваць. Прытым яшчэ ведаць, што дома – малыя дзеці, хворы муж і гаспадарка. І ўсіх трэба накарміць, абмыць, даглядзець, раніцай падаіць карову, выгнаць у поле, а самой...

*«Хлеба чорнага атрэжаш, соллю пасыплеш, вады ў сцяклянку (шкляную банку) нальеш, за серп – і ў поле,* – успамінае Аўгіння Іванаўна. – *Жнучы, наттам (надта, вельмі) не запяеш, а ўжо як сядзем аддыхнуць, тады і песні пяём. У асноўным жніво пялі, толькі на кожнае збожжа свае песні былі: «спасаўскія» – на ячмень, «авясец» – на авёс, «жытнія» – на жыта:*

### Спасаўка

*А ў заінькі а тры тропанькі, ой рана*[1].
*Адна трапа ў гарох пайшла,*
*Другая трапа – у пшанічаньку,*
*Трэцяя трапа – у крынічаньку,*
*Што ў гарох трапа – пакачаціся,*
*У пшанічаньку – то наесціся,*
*У крынічаньку – то напіціся.*

### Авясец

*Стукнула, грукнула на дварэ.*
*«Паглядзі, мамачка, ці не па мяне».*
*«Па цябе, дзіцятка, па цябе».*
*«А схавай, мамачка, за сябе».*
*«Не схавае маці дзіцяці,*
*Большаё дзіцятка ат маці».*
*Авясец, мамулька, авясец.*
*А каго ка мне Бог прынясець?*
*А калі старога – не люблю,*
*А калі малога – біць буду,*
*А калі роўніцу – жыць буду.*

### На жыта

*Бабачкі, лябёдачкі,*
*Пойдзем разам дамовачкі.*
*У мяне дома бяда стала:*
*Звалілася свякроў з тыну*
*У зялёную крапіву.*
*Не жаль мне свякровачкі,*
*А жаль мне крапівачкі.*
*А свякроў стара сама ўстане,*
*А крапіўка ссохне, звяне.*

Хочацца расказаць пра нялёгкае жыццё бабулі Марыі Казіміраўны, якая памерла праз месяц пасля нашай гутаркі.

Марыя Казіміраўна Паўлавец нарадзілася 8 лістапада 1918 г., пражыла амаль 85 гадоў. Скончыла 5 класаў. Бацька яе быў краўцом, яна навучылася ад бацькі шыць, краіць. Шыла ў майстэрні горада. Мела дзве кваліфікацыі: кравец і шавец. Умела рабіць загатоўкі са скуры, шыць боты. Было ў яе пяцёра дзяцей, трое з іх памерлі. Адзін сын трагічна загінуў дома. Дзве дзяўчынкі памерлі маленькія: адна ў 6 месяцаў, а другая – у тры гады. Бабулю даглядала дачка. За сваё доўгае жыццё Марыя Казіміраўна шмат чаго перажыла і шмат чаму навучыла іншых.

Сястра Марыі Казіміраўны, Галіна (па мужу Шынкевіч), была настаўніцай нашай школы, вучыла дзяцей пачатковых класаў. За добрасумленную працу і поспехі ў навучанні і выхаванні дзяцей у 1965 г. атрымала званне «Выдатнік асветы СССР». Але па стане здароўя яна рана пайшла на пенсію і заўчасна памерла ў 1981 г. А Марыя Казіміраўна ўзяла на сябе клопат пра яе мужа, Міхаіла Дзмітрыевіча Шынкевіча, якога мядоцкія людзі завуць «Доктарам», бо ён і сапраўды ўсё жыццё адпрацаваў у Мётчанскай амбулаторыі фельчарам: лячыў дарослых і дзяцей,назіраў за цяжарнымі жанчынамі, прымаў роды, рабіў нескладаныя хірургічныя аперацыі. Зараз яго даглядаюць сын і ўнукі.

А Марыя Казіміраўна таксама дапамагала хворым людзям, але толькі нетрадыцыйнымі спосабамі – пры дапамозе народных сродкаў. Я шкадую, што не паспела распытаць у яе пра гэтыя сродкі. Але і тыя нямногія хвіліны нашых з ёю размоў вельмі ўзбагацілі мяне ведамі пра мінулае жыццё нашай вёскі, пра цяжкую, але годную, долю жанчыны – захавальніцы сям'і, зберагальніцы лепшых традыцый, што перадаюцца людзьмі з роду ў род.

***Таццяна БОЙКА,***
***вучаніца 9 класа,***
***в. Новая Мётча***
***Барысаўскага раёна***

[1] Рэфрэн «Ой, рана» паўтараецца пасля кожнага радка.



№ 22 (135), чэрвень 2006 года

## З гісторыі стварэння музея ў Мінску

Група аматараў мясцовай даўніны ўжо і раней (у XIX стагоддзі. – *Рэд.*) намагалася рабіць захады па арганізацыі ў Мінску гісторыка-археалагічнага таварыства і музея пры ім. Праўда, не толькі спробы, але і рэальныя вынікі меліся і дагэтуль (прыгадаем хаця б існаванне музея Г.Х. Татура).

У пачатку XX ст. зноў узяліся за справу прыхільнікі гісторыі. Усё ж іх дзеянні мелі афарбоўку выразна шавіністычнага характару, у большасці выпадкаў гэта былі выкладчыкі Мінскай духоўнай семінарыі на чале з архірэем Міхаілам. Ён жа і адвёў у сваім доме дзве келлі пад музей (на гэтым месцы зараз Дом афіцэраў), а пазней і частку мураванай стайні. Узначаліў таварыства выкладчык семінарыі Былоў. У яго кіраўніцтва ўваходзілі Паноў, Скрынчанка і Снітка. Былоў незадоўга паехаў у Пецярбург на археалагічныя курсы, захварэў і памёр. Узначаліў таварыства і музей найболыш падрыхтаваны Андрэй Канстанцінавіч Снітка (1866–1920), які ўжо дагэтуль вёў археалагічныя раскопкі, збіраў і звозіў у Мінск помнікі пісьменнасці. Ён жа і ўзяўся будаваць новае памяшканне пад музей (цяпер у гэтым будынку Дом мастацтваў). Вяліся археалагічныя раскопкі для музея ля Рагавы, у Крычках (ля ст. Радашковічы), ля Пінска, Барысава, Неманіцы, Слуцка, Турава. У Тураве быў знойдзены саркафаг.

Яшчэ больш ажывілася работа ў музеі, калі падключыўся выдатны энтузіяст беларускай этнаграфіі і фальклору Ісак Абрамавіч Сербаў. Ён зрабіў мноства фотаздымкаў, запісваў народныя песні. На пасяджэнне таварыства ў доме Сніткі па вуліцы Вясёлай, 9 (зараз вул. Першамайская) Сербаў запрашаў хор пад кіраўніцтвам Кашына, каб прадэманстраваць вартасці беларускага меласу.

У музей паступіла частка калекцыі з музея Г. Татура. Афармленнем экспанатаў займалася сям'я Сніткі. Экскурсіі найбольш вадзіў сам А.К. Снітка. Ён жа працаваў над гісторыяй Слуцкага княства.

У час Першай сусветнай вайны, у 1915 годзе, музейныя каштоўнасці былі эвакуяваны ў Разань. Іх далейшы лёс невядомы. Сам жа А.К. Снітка аказаўся ў Глухаве на Украіне, дзе і памёр пасля цяжкай хваробы.

Варта згадаць, што намаганнямі таго ж таварыства выйшлі 4 выпускі зборніка «Минская старина».

***Генадзь КАХАНОЎСКІ***
*(«Кола дзён», 1988)*

# І ў марах я Ветку малюю




У кожнага чалавека ёсць тое святое месца, дзе ён нарадзіўся, – яго маленькая радзіма. Напэўна, як бы не складвалася далейшае жыццё, якія б падзеі ў ім не адбываліся, сюды, у родны кут, яго пастаянна будзе цягнуць, і самыя цёплыя словы ён будзе прысвячаць свайму гарадку ці вёсцы.

Я нарадзілася ў Ветцы (з 1926-га Ветка – раённы цэнтр) – вельмі прыгожым горадзе, у Веткаўскай раённай бальніцы, дзе працавала мая маці. Горад размяшчаецца за 16 кіламетраў ад Гомеля, на раўнінным левым беразе Сажа. Хоць і не ўсё памятаю са свайго маленства, але востра адчуваю сэрцам: там мне было хораша і ўтульна.

І вось у 1986 годзе на Чарнобыльскай атамнай станцыі адбылася катастрофа. Але ніхто не паведамляў аб становішчы, не раіў, што рабіць. І толькі праз доўгі час развеяўся міф аб чысціні тэрыторыі Веткаўшчыны. Прыйшло паведамленне аб магчымым адсяленні вёсак і пасёлкаў нашага раёна – праз чатыры гады пасля трагедыі ў Чарнобылі. Адсяленне пачалося з 1990 года.

Мае бацькі хутка пачалі збіраць рэчы, не звяртаючы ўвагі на прапановы застацца яшчэ на год і пасля пераехаць у Мінск. Яны атрымалі бясплатна і даволі хутка транспарт для перавозкі скарбу ў новае жыллё ў горадзе Паставы Віцебскай вобласці, з правам яго прыватызацыі. Кампенсацый ніякіх нам не было, бо ўсё неабходнае санітарная станцыя радыяцыйнага кантролю дазволіла ўзяць з сабою.

Што датычыцца месца перасялення, то двойчы праводзілася апытанне: хто і куды жадае выехаць. Складзеныя спісы былі разгледжаны на камісіі па перасяленні з удзелам урачоў. Устанавілі чаргу атрымання жылля ў чыстай зоне.

Так мы і апынуліся ў Паставах. Горад сімпатычны, але грудзі сціскаліся ад болю. Настаў у нашым жыцці час, калі засталося з намі ўсё, але не стала побач родных і блізкіх.

Паставы... Гэты горад мяне выхаваў, навучыў і вучыць жыць. Разам з ім я разумею, дзе шчасце, а дзе – гора. Паважаю дзень учарашні і сённяшні, цаню ўсё, што звязана з Пастаўшчынай. Радуюся дасягненням. Люблю сустракаць на вуліцах працавітых і шчырых людзей. Але душа мая там, на Гомельшчыне, і ў марах я Ветку малюю. Са мной яна ўдзень і ўначы, зімой і ўлетку. Сваёй маленькай радзімы я не бачу, але адчуваю сэрцам.

Але нядаўна ў маім жыцці была прыемная нечаканасць, а дакладней – свята. Праз 14 гадоў пасля адсялення тата сабраў усю сям'ю і павёз на машыне з Паставаў у Ветку. Ён ведаў, што гэта паездка – мая даўняя мара. Усю дарогу я хвалявалася і распытвала бацькоў аб усім, што прыходзіла ў галаву. Часам я адчувала боль, часам – радасць. І вось некалькі кіламетраў да майго роднага горада...

Гэты шлях тата ехаў па мамінай просьбе павольна. Бацькі самі ў гэты момант хваляваліся больш, чым я.

Вось і Ветка! Яна сустрэла нас цёплым сонейкам і лагодным ветрыкам. Спачатку мы адправіліся ў Веткаўскую раённую бальніцу. Яна папрыгажэла, стала сучаснай. Мая маці не нават спачатку не пазнала. Толькі ў 1997 годзе тут прыменены 17 новых метадаў дыягностыкі і лячэння. Медыцынскім аглядам ахоплена 97–98 % дарослага і 100 % дзіцячага насельніцтва. Вядзецца работа па раннім выяўленні сухотаў і анкалагічных захворванняў органаў дыхання. Шырока прымяняюцца біяхімічныя, гематалагічныя, ультрагукавыя, эндаскапічныя метады дыягностыкі захворванняў, кантроль за ўзроўнем радыяцыйнага апраменьвання жыхароў, фізіятэрапеўтычныя метады лячэння, масаж, водалячэнне.

Бальніца знаходзіцца непадалёк ад горада. А вось і сама Ветка – невялікі горад з амаль прамавугольнаю сеткаю вуліц. Ядром планіроўкі з'яўляецца Чырвоная плошча. З 1960 па 1970 на ёй былі ўзведзены цагляныя будынкі райкама партыі і райвыканкама, Дом культуры. У цэнтры плошчы вялікі сквер, пасярод якога ўстаноўлены фантан. Мы прайшліся там, сфатаграфаваліся і ўсё не верылі, што ходзім па роднай зямельцы...

Пра Веткаўскі музей народнай творчасці ведаюць не толькі ў горадзе, на Беларусі, але і за мяжой. А пачалося ўсё задоўга да 1987 года, калі музей прыняў сваіх першых наведвальнікаў. Яго заснавальнік Фёдар Шкляраў на працягу ўсяго жыцця па крупінках збіраў адметныя ўзоры творчасці майстроў Веткаўшчыны – абразы, старадрукі, ручнікі. Гэтая унікальная калекцыя і была пакладзена ў аснову музейнай экспазіцыі.

Сярод помнікаў дойлідства можна згадаць і Веткаўскую Праабражэнскую царкву, якая будавалася з 1836-га па 1840-ы. Да 1917 года на Веткаўшчыне мелася больш за 30 праваслаўных храмаў, бо пераважная большасць жыхароў былі вернучымі. Мноства храмаў былі прысвечаны Божай Маці. Я памятаю, што ў нас дома стаялі іконы. Яны знаходзіліся ў чырвоным куце, які быў звернуты на ўсход. На царкоўную ранішнюю службу мы абавязкова ішлі апранутыя па-святочнаму. Хочацца спадзявацца, што гэты абрад застаўся і зараз.


*Царква Праабражэння*

Трэба абавязкова сказаць, што Ветка – гэта горад стараверў, бо заснавана яна ў 1685 годзе як слабада ў ВКЛ рускімі стараверамі. А першая іхняя царква была пабудавана ў канцы XVII стагоддзя.

Мой дзіцячы садок... Не слушная думка, што ў Ветцы мала маладых і дзяцей. Каля садка бегала многа дзетвары. Вясёлай, шчаслівай і шумнай.

Але час ляціць хутка і няпроста за дзень абыйсці ўсе знаёмыя мясціны. Шчыра кажучы, тое, што мы ўбачылі, нас будзе хваляваць многія гады. Мы нібы аднавілі ў памяці былыя карціны жыцця, наша мінулае, якое ніхто і ніштo не зможа забраць.

...Начамі я яшчэ мацней малюю Ветку ў марах. І прызнаюся, пасля паездкі фарбы ўжо не чорнабелыя, а рознакаляровыя.

***Ірына ЗАЯЦ,***
*студэнтка журфака БДУ*


*Вуліца (выгляд ад акна былой маёй кватэр*


*Знакаміты Веткаўскі музей*





*Здаецца, ніштo не можа парушыць няспешнае і размеранае жыццё гарадскога пасёлка Акцябрскі, які схаваўся сярод бясконцых і густых лясоў Гомельскага Палесся, абудзіць спакой зялёных і ўтульных вуліц, усхваляваць імкліва-задуменны бег тамтэйшай рэчкі Нератоўкі... Аднак чароўныя гукі музычных інструментаў, заліхвацкія мелодыі народных танцаў, а таксама незабыўныя шчымліва-сумныя ды гарэзліва-вясёлыя напевы «колішніх» песень ператварылі невялікі раённы цэнтр на самым пачатку лета ў сапраўдную сталіцу фальклору і народных промыслаў.*

# Пяе і танчыць «Берагіня»

Заключныя імпрэзы IV Рэспубліканскага фестывалю фальклорнага мастацтва «Берагіня», правядзенне якога было б немагчыма без падтрымкі Міністэрства культуры і адукацыі Рэспублікі Беларусь, Гомельскага аблвыканкама, Акцябрскага райвыканкама, ГА «Беларускі фонд культуры» і, вядома, аўтара ідэі і кіраўніка праекта Мікалая Аляксеевіча Козенкі, якія праходзілі тут з 1 па 4 чэрвеня. Яны сабралі шматлікіх энтузіястаў, людзей шчыра ўлюбёных у свой родны край, яго духоўна-матэрыяльную спадчыну. Калектывы з розных культурна-этнаграфічных рэгіёнаў краіны сабраліся разам, каб паказаць усю непаўторнасць і самабытнасць беларускага фальклору. Тую самабытнасць, якой, на вялікі жаль, становіцца ўсё цяжэй і цяжэй змагацца з духоўнай спустошанасцю, знішчэннем спрадвечных маральных каштоўнасцей нашага народа, бяздумнай заменай іх на новыя – «сучасныя».

«Палескія плясуны», «Нежачкі», «Верабейкі» і іншыя калектывы прыехалі на Рудабельшчыну не толькі паўдзельнічаць у конкурсах, заняць прызавыя месцы і атрымаць каштоўныя падарункі. Яны прыехалі паказаць і даказаць, што ў нас, беларусаў, з народных танцаў і песень ёсць не толькі «Лявоніха».

І хоць рудабельскае неба сустракала фестываль шэрасцю і пахмурнасцю, яно ніколькі не сапсавала добрага настрою ні яго арганізатарам, ні ўдзельнікам. Чыстыя і ўтульныя, па-святочнаму ўпрыгожаныя вуліцы і плошчы сардэчна віталі гасцей. Столін, Кобрын, Любань, Расоны, Ракаў, Клімавічы, Лепель, Мінск – з самых розных куточкаў Беларусі з'язджаліся фальклорныя калектывы, у асноўным дзіцячыя. Гэта была галоўная асаблівасць фестывалю. А яшчэ ягонай адметнасцю з'явілася правядзенне Першага рэспубліканскага турніру салістаў, а таксама конкурсу выканаўцаў твораў народнай спадчыны. Але гэта адбывалася пазней.



А спачатку, у першы ж дзень фестывалю, праводзіўся адборачны тур конкурсу танцавальных пар. На імправізаванай сцэне, якая размясцілася ў гарадскім парку пад шатамі старых і высокіх дрэў, ля якіх колькі стагоддзяў таму быў маёнтак знакамітага роду Лапаў, загучалі баяны, зазвінелі цымбалы і скрыпкі – кінуўся ў скокі «Кракавяк», «Мікіта», завіхурыла «Лявоніха» і «Полька-бабачка». Некалькі дзесяткаў пар спрачаліся на працягу двух дзён за званне лепшай у выкананні народных побытавых танцаў. Але атрымаць яго аказалася не так ужо і лёгка. Па-першае, была вялікая канкурэнцыя сярод удзельнікаў, а па-другое, – кампетэнтнае журы, у склад якога ўваходзілі прафесійныя знаўцы танцавальнага мастацтва, ацэньвалі якасць выступу пар па такіх крытэрыях, як дакладнае веданне кампазіцыі танца; непасрэднасць і выразнасць вобразна-пластычнага самавыяўлення; тэхніка выканання; веданне народна-танцавальнага этыкету; культура нашэння касцюма. У выніку па-сапраўднаму бескампраміснай, але цікавай і відовішчнай барацьбы сярод дзяцей перамогу святкавалі пары пад нумарамі 38, 13, 20, а сярод моладзі – 47, 23, 42.

Узнагароджанне пераможцаў праходзіла 4 чэрвеня, спачатку ў будынку райвыканкама, дзе дзеці атрымалі дыпломы, а затым і на галоўнай сцэне ў парку. Тут былі ўручаны памятныя падарункі. Акрамя конкурсу танцавальных пар у гэты дзень былі падведзены вынікі і іншых спаборніцтваў. Так, у праграме «дэкаратыўна-побытавае мастацтва» перамогу святкавалі «Палескія плясуны» (СШ № 2 г. Століна, мастацкі кіраўнік Іван Лукашавіч Лёгкі) і «Верабейкі» (Любанскі раённы Цэнтр культуры, мастацкі кіраўнік Сяргей Георгіевіч Выскварка). Перамога надавалася па выніках некалькіх намінацый: «Выраб з саломы», «Традыцыйная вышыўка», «Выраб пояса», «Выразанне выцінанкі», «Прэзентацыя выставы». У «Музычным мастацтве» 1, 2 і 3-яе прызавыя месцы занялі адпаведна «Магдалінка» з Кобрынскага раёна, «Нежачкі» з Расоншчыны і «Вянок» Ракаўскага СДК Валожынскага раёна.



**«Палескія плясуны» падчас шэсця**

Гран-пры фестывалю і каштоўны падарунак – відэакамеру атрымаў калектыў «Магдалінка». Астатнім калектывам былі ўручаны DVD-прайгравальнікі.

Цырымоніі ўзнагароджання і заключнаму канцэрту папярэднічала незабыўнае відовішча-шэсце, якое падаравалі гледачам, а таксама жыхарам Рудабелкі ўдзельнікі фестывалю. Яны ўрачыста прайшлі па галоўнай вуліцы райцэнтра. Кожны калектыў, па ўмовах, павінен быў мець эмблему (выяўленча-мастацкі сімвал), а яшчэ той калектыў, які б найбольш адметна праявіў сябе, заахвочваўся дыпломам і каштоўным падарункам. Таму і не дзіва, што ўдзельнікі шэсця не проста прайшлі па Савецкай вуліцы, а пратанчылі, праспявалі, прайгралі, як кажуць, «на хаду» ў прамым сэнсе слова.

На шэсці асабліва вылучаліся замежныя госці: украінцы, палякі і латышы. Як касцюмамі, так і паводзінамі. Калі палякі і ўкраінцы па-заліхвацку грукаталі ботамі па асфальце пад гукі народнай музыкі ды гучна спявалі песні, то латышы, наадварот, паводзілі сябе стрымана. Зусім іншымі рыжане з «Куокле» былі мінулым вечарам на канцэрце, што быў наладжаны ля Дома культуры. Пад народныя танцы нашай краіны-суседкі кінуліся ў скокі нават гледачы, якіх нямала прыйшло на Цэнтральную плошчу. Гэтага не ўдалося зрабіць нават палякам і ўкраінцам. Але затое ансамбль песні і танца з Белачточыны «Клекацякі», як ніхто іншы, упадабаў рудабельцам. І не толькі сваёй весялосцю, а ў першую чаргу тым, што, акрамя польскіх песень, яны спявалі беларускія народныя.

– Гэта ж трэба, палякі спяваюць нашы песні! – даводзілася чуць сумназдзіўленыя галасы ля сцэны.

Таму і не дзіва, што нашых суседзяў гледачы праводзілі доўгімі і гучнымі апладысментамі. Прыемнае ўражанне пакінула і «Народная крыніца» з Нежына Чарнігаўскай вобласці, а таксама фальклорны ансамбль Белдзяржуніверсітэта культуры і мастацтваў «Кроса» ды ансамбль старадаўняга танца «Басданс» з Мінскага дзяржаўнага палаца дзяцей і моладзі.

Адзвінела скрыпкай і цымбаламі, адтанчыла сёлетняя «Берагіня»... Гасцінны райцэнтр вернецца да свайго звычайнага няспешнага і размеранага жыцця. Але ўжо ў наступным годзе, як плануюць арганізатары фестывалю, калі Рудабелка будзе адзначаць 500-гадовы юбілей, пад шатамі старых і высокіх дрэў гарадскога парку зноў загучыць «Кракавяк», завіруе «Лявоніха».



**Чакай, гармонік, хутка выступ...**

*А чаму б такі унікальны фестываль праводзіць не толькі ў гарадскім пасёлку Акцябрскі, а, напрыклад, дзе-небудзь на Піншчыне ці Прыдзвінні – у іншым культурна-этнаграфічным рэгіёне. Альбо, калі пакінуць «Берагіню» на Рудабельшчыне, то рабіць кожны фестываль з ухілам на нейкі пэўны рэгіён Беларусі. Напрыклад, калі сёлета праводзілася свята народных мастацтваў Рудабельскага краю, то на V фестывалі правесці такое свята, напрыклад, Пінскага Палесся?..*

*Ігар ГРЭЧКА*
*Фота аўтара*



**Бывай, «Берагіня»! Да новых сустрэч!**

## Бясконцая Беларусь

Колькі прыгажосці ў Беларусі –
Не аб'ехаць усю
і пешшу не прайсці.
Запрашаем мы сяброў сваіх
у госці,
Прыгажэй мясціна ў не знайсці.

Глянь удалеч,
у бясконцыя прасторы –
Не акінуць вокам аніяк.
Тут стаяць магутныя дубровы,
Тут палі калоссямі шумяць.

Рэкі і азёры чыстыя,
празрыстыя,
І ручай цвырчыць шпарчэй,
хутчэй.
Як гамоняць весела тут птушкі,
Салавей спявае тут званчэй.

Нельга не любіць маю краіну –
З подыхам вясновых навальніц,
З велізарным полем
васільковым,
З чысцінёй,
празрыстасцю крыніц.

І ў якой бы далі мне не быць,
Мне свабй Радзімы не забыць.
Беларусі песню прысвячаю,
І люблю яе, да болю аж люблю!

**Крысціна УШАКОВА,**
**вучаніца 9-га класа**
**СШ № 12 г. Мінска**





# «Романэ сунэ» — «Сны цыганоў»

***У Віцебску пад такой назвай выйшаў у свет зборнік вершаў Вальдэмара Калініна. Кожная такая кніжка на ромскай мове – цікавая з'ява ў жыцці нашага грамадства. Не так многа літаратурных твораў створана нашымі землякамі-ромамі. А калі аўтар падае ромскія вершы ў перакладзе яшчэ на тры мовы – беларускую, румынскую і англійскую, то гэтае выданне можна назваць унікальным. Няма сумніву, што аўтар мае вялікую эрудыцыю і выдатна валодае гэтымі мовамі.***

Але заўважым такую акалічнасць: у беларускай частцы, за выключэннем некалькіх аўтарызаваных перакладаў, Вальдэмар Калінін выкарыстаў паслугі вядомых паэтаў-перакладчыкаў. Відавочна, што каштоўнасць ромскіх вершаў ад гэтага толькі павысілася, бо спрычыніліся да гэтай справы такія мэтры беларускай паэзіі, як Рыгор Барадулін, Лявон Баршчэўскі, Навум Гальпяровіч і іншыя. Дарэчы, апошні напісаў да паэтычнага зборніка «Сны цыганоў» выдатную прадмову. Даўно працуючы на ніве перакладаў на беларускую мову паэзіі розных народаў, ён сцвярджае, што вершы Вальдэмара Калініна будуць блізкія тым беларусам, якія любяць і шануюць сваю родную мову, свой мілы край, родны і любы цыганам, татарам, яўрэям, рускім, украінцам і ўсім, хто знайшоў на Беларусі свой родны дом.



Нарадзіўся Вальдэмар Калінін у Віцебску. Шмат гадоў працаваў настаўнікам у школах, выкладчыкам англійскай мовы ў Віцебскім педагагічным інстытуце. Зараз жыве і працуе ў Лондане (Англія). З'яўляецца лаўрэатам Міжнароднай прэміі Хірасімы Фундэйшн «За мір і развіццё культуры» (2001) і літаратурнай прэміі «Рамані» Інстытута Адкрытага Грамадства ў Будапешце за пераклад псалмоў з яўрэйскай мовы на балта-цыганскую (2003).

Як сцвярджае аўтар зборніка «Сны цыганоў», гэтай кніжкай вершаў ім зроблена спроба прадставіць цыганоў такімі, якія яны ёсць, каб людзі не памыляліся ў сваіх адносінах, безразважліва не ацэньвалі іх незвычайнае жыццё, паводзіны.

***Вальдэмар КАЛІНІН***

## Цыганская мова

*Памяць ад цыганоў засталася,*
*«Раманэс» – кожны гук яе люб.*
*Гэтай мове бацькоў цыганяты*
*Навучаюцца з матчыных губ.*

*Хай на словы яна небагата,*
*Захавала пласты даўніны.*
*Беларускія словы і гукі*
*У цыганскай гаворцы чутны.*

*Каб свяцейшым зрабілася свята,*
*Дзецям даць трэба мову бацькоў.*
*І пісьмовай цыганская мова*
*Мусіць стаць – спадкаемому вякоў.*

***Пераклаў Рыгор БАРАДУЛІН***

## Романы чыб

*Ріпірібэ яцяпэ отгінэ ромэндыр,*
*«Романэс» ла кхарна рома і гаджэ,*
*Сыклён тэ ракірэн да чыб дадэндыр,*
*Дакірэ уштэндыр романэ чхаворэ.*

*Мэк чорорі дая чыб лавэнца*
*Сароекх пхэнэса, со і сын пэ іло,*
*Пал дава загінэ лава гаджытка,*
*Лава дэ ракірібэ романо шундло.*

*Соб тэ джынэн кучыпна свэтытка,*
*Трэй чхаворэнгэ тэ сыклён,*
*Соб тэ скэрэн романэс чхыныбнытко,*
*Екх екхэс фэдыр тэ Мгалён.*

***«Краязнаўчая газета» неаднаразова змяшчала матэрыялы пра гісторыю, сённяшні стан пабудаванага ў 1765–1775 гадах Агінскага канала і абладкаванага ў 1824–1839 гадах Аўгустоўскага канала, што цесна звязаныя і з Беларуссю, мелі гаспадарчае, культурнае значэнне.***

***Нядаўна ў газеце «Культура» з'явілася публікацыя нашага пастаяннага аўтара, дзе па-новаму закранаюцца некаторыя нюансы гэтай тэмы. Прапануем увазе чытача гэты матэрыял.***

# Радзівіл задумаў, Агінскі здзейсніў.

У гістарычных крыніцах упамінаецца, што ў 1767 г., вымяраючы ўладанні Целяханаў і прылеглых вёсак, каморнік прыйшоў да высновы, што паміж Шчарай і Ясельдай можна пракласці водны шлях па балотах. Гэтая ідэя была пададзена варшаўскаму камісару Тадэвушу Нарбуту, кіраўніку пінскіх земляў, а для складання праекта быў запрошаны пінскі негацыянт, а потым падстараста пінскі М. Бутрымовіч. Праект канала быў адпраўлены гетману Міхалу Казіміру Агінскаму, які зацікавіўся будаўніцтвам і выдзеліў на яго грошы. У 1768 г. варшаўскі сойм падтрымаў ідэю і пастанавіў падарыць Агінскаму мястэчка Лагішын і вёску Мышкаўцы з прылеглымі землямі, а таксама дазволіў з пачатку сплаву спаганяць мыта «па 8 злотых з вясла ці ад спіцы».

Агінскі затраціў на будаўніцтва 12 мільёнаў злотых. Таму, гаворачы пра канал яго імя, нельга абмінуць асобу гетмана Міхала Казіміра. З 1748 г. ён займаў пасады чашніка літоўскага, пісара польнага і генерал-маёра войск літоўскіх. У 1753–1761 гг. падарожнічаў па Еўропе. Ажаніўся з дачкою вялікага канцлера літоўскага М. Чартарыйскага, атрымаў Слонімскую эканомію. З 1764 г. – ваявода віленскі, з 1768 г. – гетман вялікі літоўскі. Пасля смерці Аўгуста III вылучаўся адным з кандыдатаў у каралі Рэчы Паспалітай. У 1771 г. Агінскі перайшоў на бок Барскай канфедэрацыі, але яго 3-тысячны атрад разбіў Суворам пад вёскай Сталовічы, і Міхал Казімір эміграваў, а яго маёнткі ва Усходняй Беларусі ў 1772 г. былі канфіскаваны. На радзіму вярнуўся ў 1774 г. Пабудаваў у Слоніме некалькі прамысловых прадпрыемстваў, друкарню, тэатр. Агінскі быў добра адукаваны і таленавіты чалавек: ён маляваў, пісаў вершы, апавесці, музычныя творы, іграў на кларнеце, скрыпцы, арфе, клавікордах. Пры сваім двары ў Слоніме стварыў оперны тэатр і капэлу. Арганізаваў школу для падрыхтоўкі балетных артыстаў і музыкантаў. У Варшаве выдаў некалькі літаратурных зборнікаў: «Гістарычныя і маральныя апавесці», «Байкі і не-байкі». Міхал Казімір Агінскі вядомы таксама як оперны кампазітар і аўтар скрыпічных п'ес. У 1778 г. для сваіх прыгонных адкрыў школу, дзе дзяцей вучылі чытанню, пісьму і танцам. У 1781 г. быў прызначаны намеснікам Літоўскай правінцыі, аднак у наступным годзе выехаў за мяжу. Быў у Бруселі, Амстэрдаме, Берліне, потым у Англіі. У 1793 г. адмовіўся ад вялікай гетманскай булавы, з'ехаў у Вену, але ў 1795 г. прысягнуў на вернасць Кацярыне II. Апошнія гады жыцця правёў у Варшаве, дзе і памёр у 1800 г.




*Канал у 1920-я гг.*

Канал Агінскага самы стары на беларускіх землях. Праз раку Лошу, Выганашчанскае і Вулька-Целяханскае азёры ён злучае Ясельду і Шчару, а праз іх – Чорнае мора з Балтыйскім. Будавалі канал уручную жыхары навакольных вёсак. Яго даўжыня складала 47 км, шырыня дна – 10 м. Канал ішоў па балотах. Берагі ўмацоўваліся дубовымі сваямі, загнанымі вертыкальна ў зямлю, а за іх са дна і да верху берага вельмі шчыльна закладаліся бярвенні, перасыпаныя торфам і балотнай глебай. Берагі канала не засаджвалі дрэвамі, каб па іх свабодна ішлі плытагоны.

У 1775 г. польскі сойм абвясціў пачатак сплаву лесу па канале, але тады ён яшчэ не быў поўнасцю добраўпарадкаваны. У 1786 г. Агінскі заявіў на сойме аб перадачы канала Бацькаўшчыне. У гістарычных крыніцах гаворыцца, што будаўніцтва канала афіцыйна завяршылася ў 1789 г., але яшчэ некалькі гадоў ён даводзіўся да ладу, пакуль па ім не пайшлі пасажырскія параходы, баржы, плыты... На канале было 10 шлюзаў (жалезныя канструкцыі шлюзавай сістэмы часткова захаваліся да цяперашняга часу).

Канал займеў важнае транспартнае значэнне: па яго водах перавозілі збожжа, пяньку, пушніну, мёд, сплаўлялі лес у Заходнюю Еўропу, а адтуль везлі металавырабы, станкі, тканіны, дываны, упрыгажэнні. Паблізу канала пачалі хутчэй развівацца цэнтры прамысловасці і культуры – Пінск, Слонім, Целяханы, Быцень і іншыя населеныя пункты, дзе працавалі тэкстыльныя, дрэваапрацоўчыя, харчовыя, цагельныя прадпрыемствы.

За з'яўленнем чыгункі значэнне канала зменшылася. У гады Першай сусветнай, савецка-польскай войнаў канал апынуўся ў зоне актыўных баявых дзеянняў. Навігацыя пачала наноў наладжвацца з 1926 г., а цалкам аднавілася з 1928 г. Да 1941 г. канал выкарыстоўваўся для лесасплаву, часткова – для суднаходства. У Целяханах знаходзілася служба па ўпраўленні каналам: кіраўнік, два інжынеры, тэхнікі, вартаўнік. У верасні 1942 г. непадалёк ад Целяханаў адбыўся знакаміты Агінскі бой, калі партызанскі атрад імя Шчорса прарваў блакаду гітлераўцаў. Ён дужэй знішчыў некалькі дзён, што прывяло да пашкоджання навігацыйнай сістэмы. Пасля вайны канал не аднаўляўся і страціў гаспадарчае значэнне. Але хочацца спадзявацца, што праз нейкі час канал Агінскага ўслед за Аўгустоўскім будзе адноўлены як турыстычны аб'ект і стане магчымым здзейсніць падарожжа ў мінулае па яго плыні.

*Ларыса МАКАРЭВІЧ,*
*г. Нясвіж*

Да 890-годдзя Слуцка

# Слуцкія яўрэі

**_Адной з этнаканфесійных груп насельніцтва, якая пакінула значны след у гісторыі Слуцка, сталі яўрэі. Асабліва моцна яўрэйская прысутнасць вызначала каларыт мясцовага жыцця з канца XVIII да сярэдзіны XX стагоддзя._**

## Першыя звесткі

Найранейшыя звесткі аб слуцкіх яўрэях адносяцца да апошняй чвэрці XVI ст. У завяшчанні слуцкага князя Юрыя II Юр'евіча Алелькавіча, які памёр у 1578 г., упамінаюцца яўрэі – арандатары мытні. У дакуменце за 1583 г. згадваюцца яўрэі-гандляры са Слуцка. У тых дакументах, верагодна, упаміналіся яшчэ не сталыя жыхары горада, а тыя, хто меў тут часовую працу.

Больш упэўнена пра слуцкую яўрэйскую абшчыну можна гаварыць, разглядаючы пачатак XVII ст. Рашэннем Літоўскага Ваада (сойм равінаў і прадстаўнікоў галоўных абшчын краіны) яна ў 1623 г. была падпарадкавана Брэсцкаму кагалу і стала лічыцца яго філіялам. Афіцыйнае прызнанне дазваляла абшчыне мець маліто̆ўны дом, а потым і ўзводзіць сінагогу, мець могілкі. А ў 1691 г. Слуцкая абшчына была аб'яўлена самастойнай і нараўне з іншымі галоўнымі абшчынамі краіны атрымала права адпраўляць сваіх дэпутатаў на сесіі Ваада. Гэтая падзея сведчыла пра дастатковую колькасць абшчыннікаў і наяўнасць адукаваных настаўнікаў – знаўцаў Торы і Талмуда.

Паступова, пачынаючы з канца XVI ст., яўрэі пачалі сяліцца таксама ў Капылі, мястэчках Цімкавічы, Раманава, Грозава, Пагост, Любань, Глуск, Старыя Дарогі, у вёсках. Іх невялікія абшчыны былі прыпісаны да Слуцкай кагальнай акругі і лічыліся яго часткай.

## Школішча

У Слуцку для пражывання абшчыны было выбрана месца ў Старым горадзе. З усходу яно абмяжоўвалася невялікай рачулкай (цяпер ручай) Бычок, з захаду вуліцай Капыльскай, на поўначы гарадскім валам, на поўдні выходзіла да Старога замка. Пасярэдзіне квартала арганізавалі плошчу, дзе з дрэва ўзвялі сінагогу. З-за таго, што пры ёй дзейнічалі навучальныя ўстановы – школы, то і сама сінагога ў народзе часцей называлася школай, а ўвесь яўрэйскі квартал атрымаў назву Школішча. Галоўнай вуліцай была Яўрэйская, якая ад плошчы вяла ў бок Старога замка. У XIX ст. ёй далі назву Школьная, цяпер гэта вуліца Парыжскай Камуны.

Могілкі былі заснаваны за горадам, на высокім левым беразе Случы, уніз па цячэнні. Апошнія пахаванні там адбываліся перад Вялікай Айчыннай вайной. Немцамі падчас вайны былі разбураны, а на пачатку 1970-х гг. ліквідаваны. Частка пахаванняў перавезена на гарадскія могілкі па вуліцы 14 Партызан, іншыя знішчаны ў сувязі са з'яўленнем новага гарадскога мікрараёна. Як сведчыць Слуцкі пінкас (Кніга запісаў), які вёўся з 1679 па 1924 год, за гэты перыяд тут было больш 20 000 пахаванняў. На слуцкіх могілках хавалі і членаў абшчын са слуцкіх ваколіц.

У адрозненне ад яўрэйскіх абшчын іншых беларускіх гарадоў, якія ў канцы XVI ст. пазналі ганенні ад маскоўскіх войскаў цара Івана Грознага, а ў сярэдзіне XVII ст. ад войскаў цара Аляксея Міхайлавіча і ад казакоў Багдана Хмяльніцкага, слуцкая абшчына фактычна не пацярпела (акрамя тых, хто падаўся ратавацца ў Вільню), бо горад не быў захоплены казакамі ў 1648 г. і рускімі войскамі ў 1655. У сувязі з ваеннай небяспекай слуцкія яўрэі тады ўліліся ў шэрагі гарадскога апалчэння і да 1690-х гг. мелі свае тры яўрэйскія палкі, якія складаліся з дзевяці сотняў.



*Літоўскі яўрэй (гравюра 1626 года)*

## Роскіт кагала

Напачатку Слуцкі кагал быў не надта шматлікі і даволі бедны. Каб трымацца, бралі пазыкі. У нясвіжскіх езуітаў у 1690 г. кагал пазычыў 10 тысяч злотых пад 10 % гадавых. Браліся пазыкі ў 1697 (12 тыс.), у 1715 (20 тыс.), у 1739 (16,5 тыс.), у 1764 (больш 30 тыс.). Адных працэнтаў у 1766–1773 гг. ад слуцкага кагала езуіты атрымалі 17 693 злотых, а доўг застаўся на 34 293 злотых.

З другой паловы XVIII ст. Слуцкі кагал пачаў багацець і ператварацца ў адзін з галоўных у краіне. Сведчаннем таму стала правядзенне ў Слуцку ў 1761 г. сесіі Ваада.

Па розных прычынах насельніцтва Слуцка на працягу XVIII ст. змяншалася. Асабліва значныя матэрыяльныя і людскія страты горад панёс у 1764–1767 гг., калі на гэты перыяд князь Слуцкі Караль Радзівіл урадам быў пазбаўлены права карыстацца сваёй маёмасцю. Слуцчынай кіравала генеральная літоўская канфедэрацыя. Часовыя гаспадары рабавалі мяшчан, забіралі ў свае маёнткі лепшых рамеснікаў, іншыя ўцякалі з горада самі. Насельніцтва горада зменшылася ў асноўным за кошт прадстаўнікоў хрысціянскага веравызнання. Яўрэйскае насельніцтва да канца XVIII ст. складала 37 % жыхароў горада. З тых часоў нішу ў гарадскім гандлі і рамесніцтве, якая здаўна была занята і трымалася мяшчанамі-хрысціянамі, занялі яўрэі. Напрыклад, у 1800 г. у Слуцку было тры купцы-хрысціяніны і сорак сем купцоў-яўрэяў.

На працягу XIX ст., калі расійскім урадам было забаронена пражыванне яўрэяў у вёсках, яны пачалі перасяляцца з акругі ў мястэчкі і гарады. На прыкладзе Слуцка гэта тэндэнцыя выглядала наступным чынам: у 1867 г. з 15 689 жыхароў горада 5 406 былі яўрэі, а цераз дзесяць гадоў з 16 651 жыхара яўрэяў было 10 881. У 1897 г. яўрэі склалі 77 % жыхароў Слуцка. Месцам пражывання станавілася не толькі Школішча, але цэнтральныя гарадскія вуліцы і прадмесці.

Займаліся яўрэі рамеснай вытворчасцю, арандатарствам, дробным гандлем у горадзе і буйным з замежжам. Багацейшым купцом Слуцка ў 1810–1820-я гг. быў Еўна Ізерліс (1771–1850), які займаўся пастаўкай лесу са Случчыны ў Кёнігсберг. Трымалі корчмы на гандлёвай плошчы і пры ўездзе ў горад на прадмесцях Трайчаны, Востраў, Выгода; піцейныя ўстановы, з якіх папулярнасцю карысталася піцейная Гіты Салавейчык на Віленскай; наладжвалі прамысловасць на пачатку XX ст., трымалі фотасалоны, друкарні.

## Адукацыя і культура

Духоўнае жыццё абшчыны трымалася вакол сінагогі. На Школішчы сінагогу пабудавалі хутчэй за ўсё ў сярэдзіне XVII ст. На плане Слуцка пачатку XIX ст. там паказаны дзве сінагогі (школы) – старая драўляная і новая мураваная. Драўлянай у хуткім часе не стала. Мураваную пабудавалі напрыканцы XVIII ст. за грошы багатай яўрэйскай сям'і Ізерлісаў – Абрама і яго сына Еўны. Напрыканцы XIX ст. на рагу вуліц Віленскай і Садовай з'явілася яшчэ адна мураваная сінагога – харальная (галоўная). Іншыя сінагогі і малельныя дамы размяшчаліся ў драўляных будынках у розных частках горада. Пры іх дзейнічалі школы. Пачатковыя школы (хедары) былі прыватныя і грамадскія, агульнаадукацыйныя і прафесійныя, дзе вучылі рамяству. У іх займаліся дзеці ад 5 да 16 гадоў па 8–10 чалавек у кожнай. Іх у Слуцку ў 2-й палове XIX ст. было дваццаць. На Школішчы, вуліцах Віленскай, Шасейнай, напрыклад, было па чатыры хедары, на гандлёвай плошчы – пяць. На Млыновай вуліцы дзейнічала ешыва (ешыбот) – вышэйшая навучальная ўстанова, якая мела шырокую вядомасць. У XIX ст. расійскім урадам арганізоўваліся дзяржаўныя яўрэйскія школы, дзе ўвага надавалася свецкім навукам і рускай культуры. Тады ж яўрэі пачалі паступаць у мужчынскую гімназію, якая з кальвінскай навучальнай установы ператваралася ў дзяржаўную. На пачатку XX ст. папулярным стала навучанне ў Слуцкім камерцыйным вучылішчы.

У XIX ст., як і ў многіх іншых месцах, у Слуцку распачалася спрэчкі паміж іўдзеямі-равіністамі і хасідамі, апошнія нават выганяліся з горада. З канца XIX ст. многія яўрэі прымалі актыўны ўдзел у рэвалюцыйным руху, уваходзілі ў склад як інтэрнацыянальных арганізацый, напрыклад, РСДРП, так і нацыяналістычных – Бунда і інш. Пасля ўсталявання савецкай улады яўрэі прымалі актыўны ўдзел у будаўніцтве народнай гаспадаркі, наладжвалі партыйнае жыццё – бальшавіцкай арганізацыі і камсамола.



*Сінагога харальная ў Слуцку. Малюнак М. Філіповіча (1925 год)*

## Ваенная трагедыя

Слуцк стаў адным з першых беларускіх гарадоў, дзе фашысцкія акупанты ўчынілі масавую расправу над яўрэйскім насельніцтвам. Неўзабаве пасля захопу горада, напрыканцы лета 1941 г., па вуліцы Валадарскага (цяпер Максіма Багдановіча), было арганізавана гета, якое падзялілі на дзве часткі – рабочае і нерабочае (там жылі пераважна старыя і дзеці). З восені акупацыйныя ўлады пачалі перыядычна вывозіць невялікія партыі, звычайна з нерабочага гета, і расстрэльваць на ўрочышчы Гараваха (прыкладна за 10 км на захад ад горада). Але самае жахлівае было наперадзе. Раніцай 27 кастрычніка 1941 г. з Каўнаса ў горад прыбыў 12-ы літоўскі паліцэйскі батальён бяспекі пад кіраўніцтвам Антанаса Імпулявічуса і адразу прыступіў да ліквідацыі гета. Старых і хворых грузілі на машыны, іншых гналі пешшу ў Гараваху, дзе расстрэльвалі. Нават камендант горада прымушаны быў прызнаць, што дзеянні паліцэйскіх межавалі з садызмам. У дапамогу прыбылым быў выклучаны нямецкі 3-ці паліцэйскі батальён і мясцовая дапаможная паліцыя. Расстрэлы працягваліся і 28 кастрычніка, ноччу літоўскі батальён выехаў у накірунку Баранавічаў. Па розных звестках, за тыя два дні загінула ад пяці да васьмі тысяч чалавек.

Значная колькасць яўрэйскага насельніцтва, тым не менш, уратавалася. Акупацыйныя ўлады вырашылі стварыць новае гета. Для яго адвялі тэрыторыю былога Школішча. Раён абнеслі калючым дротам і пільна ахоўвалі. На работу і з работы людзей вадзілі пад канвоем. Перад пераводам яўрэяў у новае гета ў красавіку 1942 г. было расстраляна некалькі сотняў непрацаздольных, якія яшчэ заставаліся ў старым гета на Валадарскага.

У сувязі з нямецкім планам канчатковага рашэння яўрэйскага пытання, прынятым на 1943 г., быў вынесены прысуд і новаму слуцкаму гета. Непадалёку ад вёскі Мохарты былі выкапаны ямы. 7 лютага 1943 г. у Слуцк з Мінска прыбыла зондэркаманда СС, якая разам з мясцовымі акупантамі прыступіла да аперацыі 8 лютага а 5-й раніцы. Людзей выганялі з дамоў і грузілі на машыны. На гэты раз з боку насельнікаў было аказана супрацьдзеянне, таму апоўдні эсэсаўцы за згоды камендантa горада пачалі паліць гета факеламі і агнямётамі. Тых, хто імкнуўся пакінуць гета, расстрэльвалі. З'ехалі эсэсаўцы з горада 8 лютага каля васьмі гадзін вечара. Гета дагарала яшчэ тры дні. Парэшткі забітых па загадзе немцаў былі адвезены на поле непадалёку ад горада, а вясной пахаваны.

Ва ўрочышчы Гараваха, каля вёскі Мохарты і на паўночнай ускраіне Слуцка, там, дзе пахаваны ахвяры згаданых трагедый, пастаўлены помнікі. Цяпер у памяць ахвяр слуцкага гета пад кіраўніцтвам архітэктара Леаніда Левіна рыхтуецца новы помнік, які павінен быць усталяваны непадалёку ад былога ўваходу ў гета на Школішчы.

За доўгую гісторыю са слуцкай абшчыны выйшла многа дзеячаў навукі і тэхнікі, мастацтва і культуры, палітычных дзеячаў і вайскоўцаў. Імёны многіх з іх упісаны не толькі ў гісторыю Беларусі, але і іншых краін. З іх можна ўспомніць знакамітага мастака XVIII ст. Хаіма Сегала (прадзеда Марка Шагала), вучонага-ветэрынара і педагога XIX ст. Іосіфа Равіча, выдатнага інжынера XX ст. – канструктара самалётных і ракетных рухавікоў Сямёна Косберга, паэта-сатырыка і драматурга Давіда Глікмана, пісьменніка Давіда Вендроўскага, які ў кнізе «Наша вуліца» пакінуў цікавыя замалёўкі з жыцця Слуцка.

У Слуцку, па дадзеных за 2000 г., пражывала 168 яўрэяў – 0,3 % ад усіх жыхароў горада. З 1995 года дзейнічае грамадскае яўрэйскае аб'яднанне «Помні», якое ўзначальвае Раіса Аляксееўна Тычына, рэлігійная іўдзейская абшчына «Хеўра Цэгілім» і абшчына прагрэсіўнага іудаізму «Гешэр».

**Ігар ЦІТКОЎСКІ,**
*г. Слуцк*

**Ад рэдакцыі.** *Першыя публікацыі пра канфесіі на Случчыне змешчаны ў №№ 13, 17 і 19 за гэты год.*

## Чаму так названа?

Ці задумваліся вы калі-небудзь над тым, чаму горад ці вёсачка, дзе вы жывяце, завецца так, а не іначай? А ці заўважалі, што шмат якія назвы геаграфічных аб'ектаў паўтараюцца ў кожным раёне? Дык вось, навука, якая вывучае геаграфічныя назвы, іх узнікненне, паходжанне, эвалюцыю, трансфармацыю ў працэсе выкарыстання, завецца тапанімікай (ад грэч. topos – месца, onima – зямля). Аб'ектам вывучэння тапанімікі з'яўляецца сукупнасць геаграфічных назваў вызначанай тэрыторыі. Вучоныя мужы з усяго свету выдзяляюць групы геаграфічных назваў, якія вызначаюць тыповыя геаграфічныя аб'екты: гідронімы (назвы водных аб'ектаў), айконімы (назвы населеных пунктаў), дрымонімы (назвы лясоў), гелонімы (назвы балотаў), мікратапонімы (назвы невялікіх, нязначных геаграфічных аб'ектаў, вядомыя вузкаму колу мясцовых жыхароў) і г.д. А ці ведаеце, якая інфармацыя «схавана» ў назвах населеных пунктаў? Гэта можа быць геаграфічнае размяшчэнне, наваколле (напрыклад, Залессе, Загор'е); археалагічныя помнікі (Гарадзішча, Курган), назвы вадаёмаў, рэк (канчаюцца на «-цк», «-ск»: Пінск, Менск, Полацк, Клецк, Слуцк); імя, прозвішча (Барысаў, Заслаўе); этнічныя рысы (Гуды, Ляхавічы, Маскалевічы); гаспадарчы занятак (Ганчары, Агароднікі, Рудня) і інш. Ёсць таксама фітатапонімы (назвы, якія паходзяць ад раслін: Дубровы, Бяроза); заатапонімы (Пціч, Лань, Бобрык). З паходжаннем назваў самых розных геаграфічных аб'ектаў звязаны цэлыя гісторыі, кожная па-свойму цікавая і непадобная да іншых. Таму і класіфікацыя ў тапаніміцы ў пэўнай ступені ўмоўная, аднак яна існуе і вартая ўвагі.

***(Па матэрыялах прэсы)***



**Прыйшлі казлы папіць вады...**

*Фота Міколы ПІВАВАРА*



**Выстава пад знакам ільва**

## Сусветны дзядзінец

**47 г.** Юлій Цэзар разбівае войска панційскага цара і нібыта прамаўляе фразу, што папулярная і сёння: «Прыйшоў, пабачыў, перамог».

**1495 г.** Засведчаны дакументальна шпіталь у Брэсце.

**1774 г.** Аўстрыя першая ў свеце ўводзіць дзяржаўную сістэму адукацыі.

**1855 г.** У ЗША патэнтуецца газа.

**1699 г.** Пётр I у Расіі ўводзіць юліянскі каляндар, па якім лік гадоў пачаў весціся не «ад стварэння свету». Новы год пачаў святкавацца не 1 верасня, а 1 студзеня.

**1777 г.** Францыя першая прызнала незалежнасць ЗША.

**1875 г.** Англійская газета «Таймс» першай у свеце змяшчае прагноз надвор'я на тыдзень.

**1914 г.** У Бельгіі ўрачы першымі ў свеце пераліваюць хвораму кроў.

*Наша спадчына*

## «Зроблена ў Брэсце року 1563 месяца верасня чацвёртага дня...»

***Такім сказам заканчваецца агромністы фаліянт, надрукаваны на сродкі Мікалая Радзівіла Чорнага – шэдэўр брэсцкай друкарні, самая вялікая і найбагацей аздобленая з беларускіх друкаваных кніг XVI стагоддзя. Тыя экземпляры Брэсцкай, або Радзівілаўскай Бібліі, што захаваліся, расказваюць сёння і пра кніжную культуру свайго часу, і пра няспынную грамадскую барацьбу, якая, як трапна заўважыў Ф. Энгельс, заключалася на той час у рэлігійную абалонку.***

Брэсцкая друкарня вядомая з 1558 года. Выпускала дробныя брашуры пратэстанцкага зместу, прамовы на шлюб і на пахаванне членаў роду Радзівілаў. І раптам з-пад яе прэсаў выйшлі аднойкнігай усе біблейскія тэксты Старога і Новага Запаветаў. З падрабязным зместам, прадмовай, прысвячэннем каралю і вялікаму князю літоўскаму Жыгімонту Аўгусту, алфавітным паказальнікам рэчаў (упершыню ў нашай кнізе) і цудоўнымі ілюстрацыямі на першых 100 старонках. Невядомы гравёр глядзеў на падзеі біблейскай гісторыі вачыма чалавека XVI стагоддзя – аб гэтым сведчаць вопратка, рэчы, постаці персанажаў, узятыя з побыту сярэдневяковых гараджан. Асабліва экспрэсіўная гравюра «Патоп». Аўтар паказвае апошнія хвіліны сусветнай катастрофы.

На многіх экземплярах засталіся паметы – сляды актыўнага чытання. Ёсць «Брэсцкая Біблія» ў архіве Ваенна-Марскога Флоту СССР – кніга трапіла туды разам з архівам адмірала Дубасава. Багата пераплецены і клапатліва адрэстаўраваны былымі ўладальнікамі фаліянт мае на палях шматлікія заўвагі арабскай мовай! Почырк «насх» XVII стагоддзя належаў, відаць, некаму з перапісчыкаў беларускіх «кітабаў». А на экземпляры з Публічнай бібліятэкі ў Ленінградзе (на 1988 г.) складаная разметка чырвоным чарнілам, почыркам XVI стагоддзя. Разметка гэта дазваляе выкарыстоўваць польскамоўную пратэстанцкую Біблію для ўжытку ў праваслаўнай царкве. Цікавы помнік таго часу, калі не было яшчэ Астрожскай Бібліі Івана Фёдарава, а скарынаўскія кнігадрукі зрабіліся ўжо рэдкасцю – ён сведчыць, што рэлігійныя спрэчкі не былі непераадольным бар'ерам для талерантнасці.

Адразу пасля смерці Мікалая Радзівіла Чорнага сын яго, Мікалай Радзівіл Сіротка, перавёз усю маёмасць брэсцкай друкарні ў Вільню і перадаў Віленскай Акадэміі. Будучы заўзятым каталікам, ён загадаў збіраць пратэстанцкія брэсцкія выданні свайго бацькі і паліў іх на двары нясвіжскага замка. У полымі гэтых вогнішчаў загінула большая частка тыражу Брэсцкай, альбо Радзівілаўскай Бібліі 1563 г. – выдатнага помніка кнігадрукарства і мастацтва кнігі.

***Мікола НІКАЛАЕЎ***

## Малая краязнаўчая энцыклапедыя

***(Пачатак у № 1 за 2003 г.)***

**ВЕЧА** – народны сход у гарадах старажытнай Беларусі (Полацк, Друцк, Віцебск, Менск і інш.), на якім вырашаліся адказныя агульнадзяржаўныя пытанні. На вечы маглі прысутнічаць усе сталыя вольныя насельнікі, але вядучая роля належала заможным і ўладным грамадзянам, баярам. На ім вырашаліся пытанні вайны і міру, заканадаўства, заключэння дагавораў, а то маглі выгнаць свайго няўдалага і запрасіць больш здатнага князя, судзіць за буйныя палітычныя і іншыя злачынствы. З цягам часу веча страціла сваё значэнне і з XIV ст. пачало замяняцца соймам.

**ВЕЧАРЫНКА** (вечарына, вячоркі, забава, ігрышча) – даўні вясковы, найчасцей маладзёвы, звычай гуртавацца вечарамі ў нядзелю і свята дзеля танцаў і гульняў. Звычайна моладзь збіралася зімой у чыёйсьці прасторнай хаце альбо ў карчме. У сярэдзіне XIX і з пачатку XX стст. праводзіліся і ў гарадах, на якіх свядомыя беларускія дзеячы, пісьменнікі і дзеячы мастацтва праводзілі нацыянальную, культурна-асветную работу. Моцны звычай спажывання вечарынак для гэтых мэт быў у Заходняй Беларусі.

**ВЁСКА** (ад стараславянскага вьсь) – даўняе земляробчае паселішча ва ўсходніх славян, у тым ліку і на Беларусі. Спачатку былі невялікія, з 2–5 двароў, пасля большалі і траплялі ў залежнасць да феадалаў. Сяліба землеўласніка (звычайна з царквой) называлася сялом; па меры пабольшвання насельнікаў некаторыя сем'і выходзілі з яго і ўтваралі новыя вёскі. Яны былі самых розных тыпаў (падоўжаныя каля рэк і азёр, дарог, скучаныя або гнездавыя).

У XVI ст. паводле валочнай памеры многія вёскі пачалі ўзбуйняцца, пераносіцца ў поле, сядзібы размяшчалі ўздоўж вуліц. Хаты маглі ставіць на адным баку вуліцы, гаспадарчыя пабудовы – на іншым. З канца XVIII ст. пашырылася з'ява ставіць хаты абапал вуліцы (вуліц). У XIX ст. пабольшала вёсак з многімі вуліцамі. Сядзібы былі вянковыя (хата і гаспадарчыя пабудовы ўтваралі закрыты двор) і пагонныя (усе пабудовы размяшчаліся ў адзін рад). На пачатку XX ст. шматлікія вёскі ў Віцебскай губерні налічвалі 15–40 двароў, Мінскай – 70–100, Гомельскай – 80–150 двароў. Жыццём вёскі кіравала грамада на чале з выбарным старастам, а важныя ці спрэчныя пытанні вырашаліся на сельскім сходзе.

Доўгі час сялянства было носьбітам народных фальклору і культуры, падмуркам беларускай народнасці і нацыі, аднак яно было жорстка сацыяльна прыгнечана ажно да часоў адмены прыгоннага права ў 1861 г., а нацыянальна – ажно да рэвалюцый 1917-га. Пазней яно стала адной з крыніц папаўнення гараджан, яго прадстаўнікі, набываючы адукацыю і займаючы важныя дзяржаўныя пасады, унеслі велізарны ўклад у станаўленне БССР, беларускай мовы і культуры. Менавіта вёска і сёння ў многім захавала, развівае народныя жыццёвы ўклад, звычаі, традыцыі, грамадскі і сямейны побыт, арыгінальнае светаўспрыманне, гуманістычныя ідэалы, маральныя нормы, эстэтычныя густы, здаровыя сілы ў народзе, у душы кожнага чалавека, пераемнасць пакаленняў і інш.



***Вёска Ждановічы Дрыбінскага раёна (мал. А. Лакоткі, 1999 г.)***

Выключную ролю ў абуджэнні нацыянальнай свядомасці, далейшым развіцці беларускай мовы і культуры, а таксама цягі да аднаўлення дзяржаўнасці на пачатку XX ст. пачалі адыгрываць ураджэнцы вёскі Я. Купала, Я. Колас, М. Гарэцкі і інш. Беларуская вёска рэзка памяняла сваё аблічча ў часы калектывізацыі (на жаль, не заўсёды на лепшае), шмат іх было знішчана ў часы Другой сусветнай вайны, адыйшло ў нябыт, а то і знікла ў пасляваенныя гады. Сёння вёска перажывае складаны працэс выжывання, рэфармавання і інш.

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамаснай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26. E-mail: kraga@tut.by



Падпісана да друку: 15.06.2006.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7. (Ліцэнзія ЛП № 02330/0056609 ад 27.02. 2004 г.)
Заказ 877.
Тыраж 1470 асобнікаў.